*Пра тое, чаму дом Міхаіла Савіцкага не стане яго музеем, чытайце на 6-й старонцы.*

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 95 (4347)**

30 лістапада 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**БЛИЦ**

*7 июня 2021 года истекает срок договоров о размещении на территории Беларуси российских военных объектов.*

## Нужно ли, на ваш взгляд, пролонгировать договоры?

**Сергей АЛЬФЕР, юрист, преподаватель, директор Общества сравнительно-правовых исследований:**

– Все зависит от того, насколько Республике Беларусь экономически выгодно нахождение этих объектов. Если мы получаем довольно серьезные экономические преференции, если эти военные объекты не несут никакой серьезной угрозы нашей стране, наверное, имеет смысл перезаключать договоры. Здесь экономические и политические взаимоотношения связаны воедино, их и следует учитывать при рассмотрении вопроса.

**Юрий ПАШИК, радиоинженер, директор ОАО «БЕЛЛИС»:**

– Конечно нет. Я не вижу внешних угроз. Политика нашего президента многовекторная, это значит, мы должны дружить со всеми, а не с кем-то против кого-то.

Мне кажется, нам нужно брать пример с Китая, который делает упор на экономическое сотрудничество и конкурентоспособность, образование, молодежь. Нужно не о войне думать, а об инвестициях. Сегодня главное оружие – это экономика, технологии и интеллект.

**Светлана ЖИЛЬНИКОВА, замдиректора частной строительной организации (Минск):**

– Лично я за пролонгацию. В данном случае российские военные объекты – это наша крыша. А если откажемся – не дадут новых кредитов, закроют коридор для нашей мясной и молочной продукции, поднимут цены на газ. Одним словом, пока нам это выгодно – нужно продлевать договор.

**Сергей ВОЗНЯК, майор запаса, член партии «Справедливый мир»:**

– Я за соблюдение статьи 18 Конституции Республики Беларусь, в которой провозглашено стремление Беларуси к нейтралитету. Если мы действительно стремимся к нейтралитету, то иностранных военных объектов и баз на нашей территории быть не должно.

К тому же большого военного значения эти объекты ни для Беларуси, ни для России не имеют. Зато Кремлю выгодно говорить, что они присутствуют в Беларуси. Но с точки зрения военной есть аналогичные объекты, которые могут взять на себя эти же функции на территории России. Так что вывод этих объектов с белорусской территории для безопасности России никакого значения иметь не будет.

**Николай КАЛАЦКИЙ, руководитель IT-проекта (Могилев):**

– Думаю, да. Между Беларусью и Россией заключены договоры о дружбе и сотрудничестве, у нас так называемое союзное государство, мы входим в ОДКБ. И на нашей территории расположены не военные базы, а элементы коллективной защиты. Они нам ничем не угрожают.

**Александр КОМАРОВСКИЙ, руководитель Минской областной организации инвалидов Афганской войны, председатель оргкомитета по созданию международного союза ветеранов боевых действий:**

– Считаю, нам как можно скорее нужно развязаться с Россией по всем стратегическим военным вопросам. Иначе в один прекрасный момент нас подставят так, что Беларусь просто прекратит свое существование. Ничего хорошего военный союз с Россией нам не сулит. Торговать надо, а вот с военными делами – лучше быть подальше.

Поэтому я против продления договора о размещении российских военных объектов на территории Беларуси.

**Татьяна БЕРЕЗОВСКАЯ, специалист по продажам:**

– Надо продлевать, потому что иначе россияне могут не дать денег. И в то же время не надо продлевать, если будут надежды на финансовую поддержку от Евросоюза. Поэтому тут главное – подсчитать, что нам выгоднее…

**Марина КОКТЫШ.**

**ВІНШУЕМ!**

## Багіня Купалаўскага стала народнай

Нарэшце званне «Народны артыст Беларусі» дагнала народную артыстку краіны Зою Белахвосцік. Я пра тое, што ў свядомасці публікі выдатнейшая артыстка Купалаўскага тэатра гэты высокі п’едэстал заняла даўно, а тое, што афіцыйны тытул так доўга выспяваў, афармляўся, затрымліваўся дзесьці ў высокіх сферах, так намі, гледачамі, не вельмі і фіксавалася. Таленавітую Зою Белахвосцік мы ўзвялі ва ўлюбёнкі даўным-даўно. Яна – прыма, і я ведаю нямала людзей, якія спецыяльна ходзяць па другім разе на спектаклі з яе ўдзелам, каб паднесці ёй букет кветак, аддзячыць за творчасць, натхненне, энергію, уздым.

У Зоі Валянцінаўны велізарны багаж роляў, але ў мяне ў сэрцы акрамя ўсяго творчага багацця, здабытага артысткай захоўваецца і такі маленькі, быццам бы нават неістотны эпізод з яе ўдзелам. Аднак ён сказаў мне вельмі многае пра акцёрскі талент.



У Купалаўскім быў тэатральны капуснік у гонар юбілейнай даты. На сцэну з песняй і танцам выйшлі шэсць ці сем Паўлінак, артысткі, якія выконвалі гэтую ролю за сорак мінулых гадоў, – а як жа, тытульны спектакль! У тым ліку і Зоя Валянцінаўна, якая пачала іграць у п’есе Янкі Купалы яшчэ ў 1982 годзе. Жанчыны адна адной прыгажэй! А самай маладой, самай запальнай сярод іх усё роўна была... Зоя Белахвосцік! Насуперак часу. Я, памятаю, нават трохі разгубілася: вось у чым яе сакрэт?

І «сакрэт» адкрыўся даволі хутка. Як у яе блішчэлі вочы! У Зоі спявала ўсё цела. Яна ўся аддавалася вобразу, хоць гэта быў усяго толькі капуснік! Белахвосцік была Багіняй, яна вылучалася сярод усіх, і нічога з гэтым зрабіць было нельга. Вось і думайце, што такое талент…

Мы ад душы віншуем артыстку Зою Белахвосцік са званнем «Народны артыст Беларусі»! Няхай яе талент, гэты каштоўны дарунак нябёсаў, ніколі не састарыцца!

**Алена МАЛОЧКА.**

**Фота Марыны СЕРАБРАКОВАЙ.**

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**

## МВФ: Беларуси нужны «более решительные реформы»




Чтобы кредитные деньги Международного валютного фонда с большей отдачей работали, Беларусь должна пойти на более решительные реформы… Нравится нашим властям такая рекомендация или не нравится, но она содержится в заявлении по итогам недавней работы миссии МВФ в Минске.

Отмечая некоторые позитивные подвижки в экономике страны, в принятом документе говорится о том, что «среднесрочные перспективы остаются сдержанными в отсутствии более решительных реформ. Трендовый экономический рост в Республике Беларусь значительно замедлился по сравнению с периодом до 2008 года».

Специалисты Международного валютного фонда прогнозируют среднесрочный рост ВВП около 2%, что «ниже того, что необходимо для ощутимого повышения уровня жизни и приближения Беларуси к показателям более богатых стран региона».

Эксперты считают, что «ограниченность диверсификации торговли и финансирования делает Беларусь восприимчивой к шокам, воздействующим на узкий круг товаров и партнеров. В этом контексте при любом усилении глобальной геополитической напряженности Беларусь может оказаться в чрезвычайно сложной ситуации, учитывая ее глубокие торговые и финансовые связи с Россией».

**Сергей КОВАЛЬЧУК.**

**ИМЕЙТЕ В ВИДУ**

## Адвокаты проконсультируют бесплатно

Сегодня, 30 ноября, белорусские адвокаты проведут бесплатные консультации для малоимущих. Акция приурочена к Дню юриста.

В Белорусской республиканской коллегии адвокатов поясняют: обратиться можно в любую юридическую консультацию, ближайшую к вашему дому, и задать свои вопросы.

«*В основном людей интересуют вопросы, связанные с исчислением стажа при выходе на пенсию, трудоустройства, вопросы социальной поддержки, наследства*», – подчеркивают в коллегии.

Стоит отметить, что подобная акция – не первая в этом году и она достаточно популярна у населения.

**Анна ГОНЧАРИК.**

**ГРОШЫ**

## Падзенне рубля працягнецца?

*Старшы аналітык кампаніі “Альпары” **Вадзім Іосуб** патлумачыў, чаму ў апошні час умацоўваюцца долар і еўра.*

Учора курс долара знізіўся на 0,0087 рубля да 2,1384 рубля за долар, але напярэдадні амерыканская валюта даражэла чатыры дні запар.

Курс еўра, наадварот, падняўся яшчэ на 0,0059 рубля до 2,4286 рубля за еўра. Еўрапейская валюта ўмацоўваецца ўжо пятыя таргі запар і аказалася на максімуме за паўтара месяца.

– Трэба адзначыць, што тры дні ўмацоўваліся адначасова долар, еўра і расійскі рубель, – кажа аналітык. – Але не варта шукаць прычыны ў нейкіх зменах у беларускай эканоміцы альбо крэдытна-грашовай палітыцы. Тут сыгралі ролю дастаткова лакальныя мікраэканамічныя фактары.

У прыватнасці, у нас дастаткова распаўсюджаная з’ява, калі беларускі рубель аслабляецца ў апошнія дні месяца альбо ў першыя дні новага месяца. Гэта звязана з тым, што да такіх каляндарных дат прывязана пагашэнне валютных крэдытаў ці аплата валютных кантрактаў. На жаль, асаблівасць паводзін некаторых дастаткова буйных прадпрыемстваў на валютным рынку такая, што яны не навучыліся рабіць паступовую закупку валюты, а робяць гэта ў апошні момант. У нас аб’ём валютнага рынку дастаткова невялікі, дзённы абарот можа знаходзіцца на ўзроўні 20–30 мільёнаў долараў. І калі пры такім аб’ёме некаму спатрэбілася купіць некалькі дзясяткаў мільёнаў долараў, то гэта і можа прывесці да аслаблення рубля. Мяркую, зараз гэта і адбываецца.

**– Ваш прагноз: што будзе з рублём да канца года?**

– Мы бачым, што зніжаецца кошт нафты, а таму магчыма аслабленне расійскага рубля. Гэта аўтаматычна прывядзе і да зніжэння беларускага рубля.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**100 РАДКОЎ**

**Міхася СКОБЛЫ**



## Мёртвы хапае жывога

Апошнім часам толькі надмагільныя помнікі ў нашай краіне ўсталёўваюцца без шуму і пылу. Усе астатнія – абавязкова са скандалам, з падзелам грамадства на варожыя лагеры, якія змагаюцца між сабой на ўсіх даступных медыяпляцоўках. Так было з помнікамі князю Альгерду і Аляксандру Неўскаму ў Віцебску. Так было з помнікам Пушкіну ў Магілёве, на якім скульптар неабачліва змясціў ці не самы “імперскі” верш паэта “Клеветникам России”. Так было (і ёсць) з помнікам гарадавому ў Мінску, які абвешчаны недатыкальным, як японскі мікада.

А ўсё таму, што ў галовах адказных за вулічныя помнікі чыноўнікаў – ідэалагічна-гістарычная куламеса, пазбавіцца ад якой ім ніяк не ўдаецца. Яны і радыя былі б, але… Ну вось, скажам, БНР у нас афіцыйна прызнаéцца спробай стварэння беларускай дзяржаўнасці. Але ж і БССР туды ж шлях нібыта пратоптвала. А ўвогуле, сапраўдная незалежнасць РБ толькі з 1994 года пачалася… І сядзіць чыноўнік, чухае патыліцу: дазваляць шыльду на доме БНР вешаць ці не дазваляць…

Помнік у Курапатах (таксама ж са скандалам) нарэшце ўсталявалі. Але замест яго ўрачыстага адкрыцця сталічныя ўлады нечакана заняліся капітальнай рэканструкцыяй помніка сталінскаму паслугачу Калініну, не пашкадаваўшы на яе ажно 134.000 рублёў. А калінінскі подпіс, між іншым, стаіць на дзясятках расстрэльных спісаў... Вось падновяць той помнік, памыюць з шампунем і – адкрыюць. Можа, нават у адзін дзень з помнікам у Курапатах, каб двойчы не ездзіць. І праўда, чаму не сумясціць?

Ад такога “сумяшчэння” куламеса ў чыноўніцкіх галовах можа дайсці да крытычнай масы. Як тут не з’ехаць з глузду – у адзін час і фактычна ў адным горадзе стаяць помнікі ахвярам і кату?

Гэта як у Асвенцыме паставіць помнік доктару Менгеле, а ў Хатыні – оберфюрэру Дырлевангеру. Таксама ж, маўляў, спрычыніліся да гісторыі…

Бедныя нашы чыноўнікі… Няйначай пра іх сказана ў класіка – “душа дваілася”. Толькі чыноўніку з раздвоенай душой “не муляюць” помнік і музей Касцюшкі і помнік і музей Суворава ў адным рэгіёне – на Брэстчыне. Толькі чыноўнік з раздвоенай душой можа размясціць на адной “алеі славы” помнікі Каліноўскаму і Сталіну, як тое мае месца ў Свіслачы. Дарэчы, штогод там адбываецца самы сапраўдны хапун мясцовых актывістаў, што ўшаноўваюць паўстанцаў 1863 года, – відаць, генералісімус з высокага пастамента назірае за ўсім і спрыяе рэпрэсіям.

А як сумяшчаюцца ў адной – сталічнай – прасторы помнікі Дзяржынскаму і гарадавому? Гэта ж ідэалагічныя антыподы. 11 гадоў царскай турмы даюць “жалезнаму Феліксу” поўнае права расстраляць таго гарадавога залпам калі не з замежнай “Аўроры”, то з пазычанага ў вайскоўцаў айчыннага “Паланеза”. Але нават выспятка таму гарадавому не дасі – МУС аштрафуе ды яшчэ прабачыцца прымусіць. Кажуць, прэс-сакратара МУС Георгія Яўчара днямі пасады пазбавілі, бо няўмела гарадавога ад неабыякавых прахожых бараніў. А *як* бараніць? Як *што* – бараніць? Як сімвал царызму? Як анёла-ахоўніка МУС? Як 200 кг бронзы? Куламеса ў галаве…

З-за падобнай куламесы часам адбываюцца цэлыя вулічныя спектаклі, пасля якіх так і хочацца выгукнуць: аўтара на сцэну! Помніцца, як перад 100-годдзем Ларысы Геніюш на яе доме ў Ваўкавыску мы з сябрамі павесілі памятную шыльду. Прыехалі адкрываць, а там – вэрхал нечуваны. Вуліца Перамогі (адна з цэнтральных у горадзе) перакрыта, проста каля дома са скіраваных у аб’езд аўтобусаў высаджваюць пасажыраў, па вуліцы бегаюць газавікі з рацыямі, імітуючы аварыю на газаправодзе. Цырк дый годзе!

Пасля цырку высветлілася, што шыльду з дома знялі тыя ж “газавікі”. І сёння на яе месцы відны дзіркі на сцяне. Але вось я разгортваю сёлетнюю ваўкавыскую раёнку “Наш час” за 12 верасня і – не веру сваім вачам, чытаючы: “Интересна улица Победы и тем, что на ней находится дом белорусской поэтессы Ларисы Гениюш, перевезенный сюда в 1948 году с ее малой родины около местечка Волпа”.

Калі дом Геніюш “интересен” ваўкавыскім уладам, то чаму яны публічна сарвалі з яго памятную шыльду? Адказ той жа – куламеса ў галовах.

Але любая жывая істота ўмее прыстасоўвацца. У жырафы з-за адвечнага поцягу ўгору вырасла доўгая шыя, дзікабраз дзеля абароны аброс калючкамі, а пінгвін, каб выжыць у халадэчу, – тлушчам. Так і беларускія чыноўнікі падумалі-падумалі і змікіцілі, што трэба ставіць помнікі не канкрэтным гістарычным асобам, а нейтральным персанажам, якія пры любым ідэалагічным ветры не выклічуць падазрэнняў. І вось ужо з гордым выглядам стаяць на пастаментах бабёр у Бабруйску, жарабя ў Зэльве, карова ў Мінску, лазнік у Лідзе, агурок у Шклове…

Ды савецкую манументальную прапаганду гэтым нехлямяжым істотам не перамагчы. Адных пралетарскіх правадыроў на п’едэсталах у нас каля тысячы. І пакуль яны будуць стаяць, датуль у чыноўніцкіх галовах панавацьме куламеса.

Атрымліваецца, як у той прыказцы: лез бы на гару, ды чорт за нагу. Вось і беларуса хапаюць за ногі прывіды мінулага, калі ён ходзіць па іхніх вуліцах, чытае іх імёны на шыльдах, сузірае іх паставы на пастаментах.

Бясконцы беларускі хорар – мёртвы хапае жывога...



**НАДВОР’Е**

## У панядзелак пацяплее

У выхадныя – мароз і кароткачасовы снег. Ноччу ў суботу будзе -7…-14°С, удзень -3…-9°С. У нядзелю ноччу -6…-11°С, па захадзе пры праясненнях да -13°С. Днём будзе ад 0 да -7°С.

У панядзелак стане цяплей. Раніцай і днём пераважна па заходняй частцы краіны пройдуць ападкі (мокры снег, дождж), на асобных участках дарог чакаецца галалёдзіца. Ноччу -1…-8°С, днём будзе ад +3°С па захадзе да -6°С па ўсходзе.

У аўторак 4 снежня днём будзе ад -2…+4°С.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# День забытых собак

Известная французская актриса Брижит Бардо обратилась к президенту Республики Беларусь с открытым письмом в защиту бездомных животных. Их, пишет мадам Бардо, отлавливают, отстреливают, травят ядом, а это недопустимо в цивилизованных странах и сильно портит имидж Беларуси в глазах просвещенных европейцев.

Ответа пока нет, но ведомство Владимира Макея вполне может ответить ей:

– Мадам, не нужно изводить бумагу на переписку! Садитесь в самолет, прилетайте без всяких виз в аэропорт Минск, и вы сможете убедиться, что не все так плохо.

Ну, я не стал бы на месте нашего внешнеполитического ведомства так горячиться, конечно, и приглашать мадам Бардо – а то ведь она и впрямь прилетит. Тут одной морковкой, как в случае со Стивеном Сигалом, боюсь, не отделаешься. Придется организовывать чисто вегетарианский стол даже для первого лица, без всяких там шкварок. А то ведь, помнится, ее даже арестовывали за попытку отбить у каких-то верующих молодого барашка, коего они собирались употребить в пищу. Но если прилетит – милости просим!

Я, вообще-то, о другом. О том, что за отстреливаемых животных заступаться можно и нужно и что наш МИД с радостью может использовать эту тему для еще одной внешнеполитической кампании. Но человек – тоже ведь животное, хотя и туго соображающее. Против отстрела человека в нашей стране просвещенная Европа давно ведет борьбу, но результатов пока не видно. Смертные приговоры по-прежнему приводятся в исполнение, сколько бы ни возражал Совет Европы и прочие уполномоченные в подобных вопросах международные организации. Так сказать, стреляли, стреляем и будем стрелять.

Я недавно уже высказывался по этой теме. Жизнь человека не стоит в нашей стране ни гроша. Конечно, это в переносном смысле. Хотя и в действительности она не очень дорого оценивается. Особенно простых людей. Помнится, не так давно статистика Министерства финансов продемонстрировала, что быстрее всего растут у нас доходы государственных служащих. Врачи и учителя отстают, хотя качество их услуг, тоже весьма и весьма отстающее, все еще несколько выше качества услуг наших чиновников. Но без чиновников (тем более – в таком количестве) можно обойтись, а без врачей и учителей не обойдешься и не выживешь. И чем ближе к человеку стоит профессионал, тем ниже его доходы. Памятники (особенно городовым) у нас охраняют лучше, чем жизнь и здоровье сограждан.

А Брижит Бардо хочет, чтобы у нас защищали бедных бездомных животных… Идеалистка. Откуда-то из шестидесятых годов вынырнула.

Мне когда-то довелось работать на выборах в Ненецком автономном округе России. Это 50 километров от Полярного круга. «Нарьян-Мар, Нарьян-Мар, городок не велик и не мал», – пел Кола Бельды еще в советские времена. Там это и было.

Город – 35 тысяч населения. Температура зимой – минус 42 по Цельсию. Очередь в магазине за привезенными свежими сосисками.

Магазинчик маленький, вроде наших сельских. Квадратный зал. Площадь – около 20 квадратных метров. По периметру витрины с сосисками, очередь трижды прокрутилась змеей. Две продавщицы обслуживают. В центре зала – то есть в центре очереди – лежит и греется большая бездомная собака. Закрыла глаза – получает удовольствие от тепла.

За несколько человек от меня стоит мама с шестилетней дочкой. Дочка дергает маму за рукав:

– Мама, мама! Купи сосиску!

– Сейчас куплю, дам.

– Мама, мама… – продолжает ныть девочка.

Очередь доходит до них. Мама расплачивается за сосиски, отрывает от кольца одну, дает дочке:

– Держи.

Та быстро стаскивает с сосиски пленочный чулок, открывает кусок – и вдруг бросает оставшееся собаке. Та, не раскрывая глаз, одним махом глотает сосиску, пережевывает в два движения и продолжает спать.

Магазин закроется. Собака выйдет на улицу и пойдет к известному ей подъезду. Она жила здесь когда-то, до того момента, когда хозяева уехали на Большую землю и навсегда забыли о ней. Последний, кто будет входить в подъезд, раскроет перед ней дверь и впустит ее в подъезд.

Первый, кто утром будет выходить, точно так же привычно выпустит ее из подъезда: погрелась – и ладно, приходи ночевать.

Таких в городе много.

Люди милосердны – там, в Нарьян-Маре, – по отношению к собакам во всяком случае. Людям трудно, они обозлены, ненавидят друг друга. Но у них есть надежда – заработать денег и вырваться, ближе к пенсии, из проклятого места, где зимой световой день длится не более часа, так что и заметить не успеваешь. А собакам бежать некуда. Потому их жалеют. Там, в Нарьян-Маре.

РУБАМ!

# Хто адкажа за кар’еры ў заказніку «Альманскія балоты»

Экалагі грамадскай арганізацыі “Ахова птушак Бацькаўшчыны” выявілі незаконную распрацоўку кар’ераў у рэспубліканскім ландшафтным заказніку “Альманскія балоты”. Па гэтым факце распачата крымінальная справа.

У АПБ расказваюць, што несанкцыянаваная распрацоўка кар’ераў была заўважана падчас маніторынгу месцаў пражывання ахоўных відаў жывёл, а спадарожнікавыя здымкі дапамаглі дадаткова выявіць некаторыя кар’еры і лакалізаваць дакладныя месцы размяшчэння ўсіх участкаў, якіх аказалася каля дзесяці. Сабраны матэрыял экалагі накіравалі для праверкі ў Мінпрыроды, Камітэт дзяржаўнага кантролю і Дзяржаўную інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету. Для трох з іх упаўнаважанымі дзяржаўнымі органамі пацверджаны факты незаконнай дзейнасці. Следчы камітэт Столінскага раёна распачаў крымінальную справу і цяпер вядзе расследаванне. Таксама працягваецца праверка астатніх фактаў прычынення шкоды навакольнаму асяроддзю.



– *«Грамадскія экалагі» – рух, які падтрымлівае Мінпрыроды*, – кажа дырэктар аб’яднання “Ахова птушак Бацькаўшчыны” **Аляксандр Вінчэўскі**. – *Падрыхтаваныя энтузіясты могуць істотна дапамагаць дзяржаўным прыродаахоўным органам у выяўленні парушэнняў на асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях. Валанцёры АПБ – захавальнікі тэрыторый, важных для птушак, – не раз абіраліся найлепшымі грамадскімі экалагамі ў краіне.*

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

ДА ВЕДАМА

Альманскія балоты разам з часткай украінскага Ровенскага запаведніка – гэта найбуйнейшае ў Еўропе лесабалотнае трансгранічнае Рамсарскае ўгоддзе, плошча якога складае больш за 100.000 гектараў. Акрамя таго, Альманскія балоты маюць статус тэрыторыі еўрапейскай “Ізумруднай сеткі” і тэрыторыі, важнай для птушак.

ІНІЦЫЯТЫВА

# Увекавечыць Праведнікаў свету!



У Беларусі створана ініцыятыўная група па ўсталяванні помніка беларусам – Праведнікам народаў свету (людзям, якія ратавалі яўрэяў падчас Халакосту). У часы Другой сусветнай вайны ў Беларусі загінула больш за 800.000 яўрэяў, выжыла каля 30.000, пераважна дзякуючы міласэрнасці жыхароў нашай краіны, якія рызыкавалі сваім жыццём.

Па колькасці Праведнікаў Беларусь займае 8-е месца ў свеце – на пачатак 2018 года гэта званне атрымалі больш за 900 чалавек. Але дагэтуль у Мінску няма помніка, які сведчыў бы пра гераізм і ахвярнасць беларусаў. Выправіць гэтую гістарычную несправядлівасць і бярэцца ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі прадстаўнікі ТБМ імя Францішка Скарыны, Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Беларускага саюза мастакоў і іншых грамадскіх арганізацый.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

СТАТИСТИКА

# Белорусы стали больше тратить на коммуналку

*А расходы на продукты питания и одежду уменьшились*

Национальный статистический комитет опубликовал данные по потребительским расходам домохозяйств в третьем квартале 2018 года. Если сравнить с тем, как белорусы распоряжались своими доходами год назад, то получается, что ощутимо меньше мы стали тратить денег на питание. В третьем квартале 2017 года эти траты составляли 40,1 процента от всех потребительских расходов домохозяйств. В первом квартале этого года данная цифра увеличилась до 40,8%, а в третьем квартале снизилась до 37,4%. То есть в течение года на продукты у нас стало уходить на 2,5 процентного пункта меньше. Но зато значительно возросли траты на жилищно-коммунальные услуги. В третьем квартале прошлого года они составляли 5,9 процента, в третьем квартале этого года – 6,1. При этом в первом квартале 2018-го эти траты достигали 8,8% от всех потребительских расходов домохозяйств.

| Потребительские расходы – всего | III квартал 2018 года | I квартал 2018 года | III квартал 2017 года |
|---|---|---|---|
| Питание (и общественное питание) | 37,4 | 40,8 | 40,1 |
| Алкогольные напитки, табачные изделия | 2,9 | 3,2 | 2,9 |
| Непродовольственные товары – всего | 34,5 | 29,8 | 33,1 |
| одежда, обувь | 7,5 | 6,4 | 8,1 |
| предметы личного пользования | 2,4 | 2,9 | 2,4 |
| предметы домашнего обихода, бытовая техника | 5,1 | 4,4 | 4,5 |
| Оплата услуг – всего | 25,2 | 26,2 | 23,9 |
| жилищно-коммунальных услуг | 6,1 | 8,8 | 5,9 |
| медицинских и санаторно-оздоровительных услуг | 1,6 | 1,6 | 1,2 |
| услуг образования | 1,6 | 2,1 | 1,6 |
| услуг учреждений культуры, спорта, туристических и экскурсионных услуг | 2,7 | 1,7 | 2,6 |
| услуг общественного транспорта | 2,5 | 2,3 | 2,5 |
| услуг связи | 5,0 | 5,3 | 4,9 |

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ПРИГОВОР

# 8 и 10 лет усиленного режима

*Суд вынес приговор учредителям бывшего дилера Suzuki.*

Около 80 человек несколько лет ждали, чтобы против отца и сына Яблонских, фирма которых была дилером Suzuki, возбудили уголовное дело и наказали. В 2016 году бизнесменами заинтересовались следователи, а прошедшим летом дело было передано в суд. Вчера в отношении предпринимателей был вынесен приговор.

Об этой ситуации писала и «Народная Воля». Отец и сын Яблонские – учредители и руководители ООО «Белавтоконтинент» – с ноября 2014 года по февраль 2016 года заключили 59 договоров с фирмами и частными лицами на поставку автомобилей Suzuki. Клиенты вносили предоплату от 10% до 100%, однако машины не получили. Кроме того, 19 потерпевших передали обвиняемым денежные средства в долг под предлогом развития бизнеса по продаже транспортных средств.

Следствие выяснило, что действия обвиняемых повлекли за собой причинение материального ущерба на сумму свыше 2,6 миллиона рублей. Всего по делу проходит 78 пострадавших. Действия обвиняемых квалифицированы по ч.4 ст.209 («Мошенничество, совершенное группой лиц, в особо крупном размере») и ч.4 ст.210 («Завладение имуществом, совершенное должностным лицом с использованием своих служебных полномочий, повторно, в особо крупном размере») УК Беларуси.

– Из нашей группы пострадавших кто-то всегда присутствовал на заседаниях. Но раскаяния от Яблонских мы так и не дождались, – рассказал TUT.BY один из пострадавших **Владимир Лукошко**. – Даже в последнем слове старший сказал, что не признает в произошедшем своей вины … Говорили, что во всем виновато наше время, риск бизнеса, московские учредители, которые подвели и заставляли их действовать таким образом.

Пострадавшие были поражены позицией защиты обвиняемых: адвокаты просили оправдать их.

– А почему оправдать? Обоснованных доводов мы так и не услышали, упор был на то, что бизнес – это риск. А Дениса надо пожалеть, потому что у него двое маленьких детей.

Суд Октябрьского района Минска признал виновным по ч.4 ст. 209 Александра Яблонского и приговорил его к 8 годам лишения свободы. Денис Яблонский признан виновным по ч.4 ст.209 и ч.4 ст.210. Он приговорен к 10 годам лишения свободы с лишением права занимать определенные должности или заниматься определенной деятельностью сроком на пять лет. Отец и сын будут отбывать наказание в колонии усиленного режима, также у них будет конфисковано имущество.

По решению суда, оба они должны будут выплатить пострадавшим деньги за причиненный материальный ущерб.

КРОПКІ НАД “І”

# Беларусь не трэба параўноўваць з Еўропай…

Паводле дадзеных даклада Еўрапейскага цэнтра па прафілактыцы і кантролі захворванняў (ECDC) і Еўрапейскага рэгіянальнага бюро Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) Беларусь увайшла ў тройку лідараў па ліку новых выпадкаў заражэння вірусам імунадэфіцыту чалавека (ВІЧ) у Еўропе. Самы высокі паказчык у Расіі.

– *На сёння больш карэктна было б параўноўваць дадзеныя па Беларусі з дадзенымі па краінах рэгіёна Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі (УЕЦА), а не геаграфічна з Еўропай. Эпідэмія ВІЧ-інфекцыі развівалася па-рознаму ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе, і зусім іначай у постсавецкіх краінах – рэгіёне УЕЦА, дзе асноўнай уразлівай групай сталі спажыўцы ін’екцыйных наркотыкаў і ў 1990–2000-х адзначаўся ўзрывападобны рост выпадкаў ВІЧ-інфекцыі з выхадам яе на шырокую папуляцыю*, – сцвярджаюць у Міністэрстве аховы здароўя. – *У краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы эпідэмія дагэтуль лакалізавана ва ўразлівых групах, у асноўным сярод мужчын, якія маюць секс з мужчынамі. Таму ўсе міжнародныя арганізацыі, у тым ліку СААЗ, распрацоўваюць свае праграмы па ВІЧ, уключаючы Беларусь у рэгіён УЕЦА, а не па геаграфічным прынцыпе ў Еўропу. І з чатырох краін УЕЦА, якія ўвайшлі ў спіс ЕЦКЗ (Беларусь, Малдова, Украіна, Расія), Беларусь не з’яўляецца лідарам.*

*Абсалютна правільна параўноўваць сітуацыю ў краіне ў сучаснасці і мінулым, якія сведчаць аб рэальна дасягнутых поспехах – у Беларусі адзначана стабілізацыя выяўлення новых выпадкаў ВІЧ-інфекцыі.*

У медыцынскім ведамстве нагадалі, што ў Беларусі па стане на 1 лістапада 2018 г. паказчык захворвання на ВІЧ-інфекцыю складае 20,5 на 100 тысяч насельніцтва, што адпавядае ўзроўню захворвання за аналагічны перыяд мінулага года. У апошнія некалькі гадоў для выканання стратэгіі ЮНЭЙДС «90-90-90» у Беларусі вельмі актыўна сталі праводзіць тэсціраванне, і калі яшчэ некалькі гадоў таму ў рэгістры было 15 тысяч пацыентаў з ВІЧ (а разліковая лічба з улікам незарэгістраваных выпадкаў складала каля 35 тыс.), то сёння ў рэгістры звыш за 20 тысяч пацыентаў, а разліковая лічба – усяго 26 тысяч. *“Пастаўлена задача скараціць да мінімуму разрыў паміж разліковымі лічбамі і лічбамі ў рэгістры. Гэта будзе сведчыць пра тое, што Беларусь дасягнула сітуацыі, калі практычна ўсе пацыенты з ВІЧ выяўлены”*, – сцвярджаюць у Міністэрстве аховы здароўя.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Абвінавачанымі застаюцца Марына Золатава і Ірына Леўшына

*Усяго па “справе БЕЛТА” праходзілі 15 журналістаў і рэдактараў.*

Абвінавачанымі па крымінальным артыкуле застаюцца галоўны рэдактар партала TUT.BY **Марына Золатава** і галоўны рэдактар БелаПАН **Ірына Леўшына.** Золатаву абвінавачваюць па ч.2 арт.425 Крымінальнага кодэкса Беларусі (“Бяздзейнасць службовай асобы”). Санкцыі па гэтым артыкуле прадугледжваюць ад штрафу да пяці гадоў пазбаўлення волі. Ірына Леўшына абвінавачваецца па ч.2 артыкула 349 (“Несанкцыянаваны доступ да камп’ютарнай інфармацыі”), паводле якога было прад’яўлена абвінавачванне і астатнім фігурантам справы, аднак пазней у дачыненні да іх справу перакваліфікавалі з прымяненнем мер адміністрацыйнага ўздзеяння. Санкцыі па ч.2 арт.425 КК – штраф, альбо абмежаванне волі да 2 гадоў, альбо пазбаўленне волі на такі ж тэрмін.

ВЯСЁЛЫХ СВЯТАЎ!

# Хочаце пагуляць у навагоднюю ноч за 1000 долараў?

*Гродзенскія рэстараны, кавярні, аграсядзібы ў чаканні навагодніх вакацый. Надыходзіць час, калі па-сапраўднаму можна зарабіць на кліентах.*

Нягледзячы на тое, што да сустрэчы Новага года застаецца месяц, у большасці гродзенскіх рэстаранаў і кавярняў адказваюць, што вольныя месцы на 31 снежня яшчэ ёсць, толькі ўдакладняюць колькасны склад кампаніі. Аказваецца, што навагоднюю ноч у гродзенскім рэстаране можна правесці за суму ад 40 рублёў і вышэй на дваіх.

Паводле слоў адміністратара аднаго з рэстаранаў у цэнтры горада часцей за ўсё першапачатковы заказ – ад 100 да 200 рублёў на дваіх. Зразумела, што кошт будзе залежаць ад апетыту кліента. А ў меню амаль паўсюдна прапаноўваюць не менш за дзве салаты і гарачую страву, на выбар каля 10 халодных закусак і, зразумела, шырокі выбар алкаголю.

Зрэшты, для асобых гурманаў у некаторых рэстаранах прапануюць мікс з мясам фазана, перапёлак са спаржай альбо карак дзічыны, замочаны ў віне. Усё залежыць ад густу кліента і таўшчыні яго кашалька.

Інакш выглядаюць цэны для жадаючых сустрэць навагоднія святы ў аграсядзібах. Цэны настолькі розныя, што цяжка зразумець логіку ў іх вызначэнні. Невялікі домік з чатырма спальнымі месцамі ў 10-кіламетровай адлегласці ад горада на ўскрайку лесу абыдзецца ў 400 рублёў. Але гэта толькі за спальныя месцы, пакольki навагодні стол з размаітымі стравамі ў гэтую суму не ўваходзіць.

Катэдж у межах Гродна для сямі пар на навагоднія суткі прапаноўваюць за 600 долараў. І гэта таксама без накрытага навагодняга стала. Затое ёсць лазня, кухня з посудам, тэлевізар, музыка.

“Тэлефануе шмат жадаючых, – сказала “Народнай Волі” гаспадыня катэджа. – Але думаю, што канкрэтна вызначымся бліжэй да свята”.

Яшчэ адна гаспадыня здала свой катэдж у межах Гродна за 1000 долараў на навагоднія святы кліентам з Мінска. Не шчаслівы голас у тэлефоннай трубцы падмацаваў, што гасцям усё спадабалася...

Дарэчы, у аддаленых ад Гродна мясцовасцях кошты ў аграсядзібах і прыватных катэджах самыя розныя. Да прыкладу, у мястэчку Сапоцкіна, што недалёка ад Аўгустоўскага канала, аграсядзібу на навагоднюю ноч здаюць за 200 беларускіх рублёў. А вось за аграсядзібу ў Азёрах з трыма жылымі дамамі і банкетный залай на 70 месцаў просяць 2800 рублёў. Праўда, гэтыя месцы дагэтуль застаюцца свабоднымі, жадаючых яшчэ чакаюць.

Дарэчы, гродзенскія турыстычныя фірмы прапануюць варыянты, каб сустрэць Новы год за межамі нашай радзімы. Так, да прыкладу, кошт выхадных дзён у гатэлі з наведваннем аквапарка ў Друскінінкаі абыдзецца ў 150 рублёў на чалавека. 10 дзён у польскім Закапанэ – 780 рублёў з двухразовым харчаваннем.

Пры жаданні сустрэць Новы год можна і ў любой з еўрапейскіх сталіц. Так што вясёлых святаў!

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Дзмітрый Каспяровіч, які трэніраваў дзяцей у Цэнтральным доме афіцэраў, застаўся без гімнастычнай залы



Гэтая зала ў пэўным сэнсе легендарная. Тут рабіў першыя крокі наш славуты гімнаст Іван Іванкоў, трэніраваліся чэмпіёны свету Дзмітрый Каспяровіч, Дзяніс Савянкоў, Аляксандр Кружылаў… Менавіта тут працаваў і заслужаны трэнер СССР Раман Ваткін.

Да апошняга часу гэтая зала, акрамя ўсяго іншага, была базай і для клуба Дзмітрыя Каспяровіча, у якім займаліся спартыўнай гімнастыкай дзеці. Аднак з 13 лістапада па рашэнні Міністэрства абароны ў памяшканні пачаўся рамонт, а затым у ім зробяць залу для гульнявых відаў спорту. Плануецца, што займацца там будуць вайскоўцы мінскага гарнізона, суvoраўцы і прадстаўнікі дзіцяча-юнацкай школы па гандболе. Адным словам, месца для выхаванцаў чэмпіёна свету, хутчэй за ўсё, ужо не знойдзецца.

*«Я заклікаю ўсю беларускую супольнасць аб'яднацца і вырашыць спрэчныя пытанні*, – звярнуўся **Дзмітрый Каспяровіч** у сацыяльных сетках да грамадскасці. – *Знайсці канструктыўнае рашэнне, якое дапаможа захаваць і аднавіць алімпійскія традыцыі беларускай спартыўнай гімнастыкі! Просім падтрымаць нас у такой сітуацыі, калі на вачах усёй беларускай гімнастычнай супольнасці разбураецца знакамітая гімнастычная зала і разам з ёй знішчаецца гісторыя спорту, ламаецца пераемнасць пакаленняў ад тых, хто праслаўляў і абараняў гонар краіны на міжнародных арэнах: Мікалай Мілігула, Нэлі Кім, Іван Іванкоў, заслужаны трэнер СССР Р.Ваткін, В.Дойлідаў, А.Наскова…*

*Просьба да ўсіх, хто не раўнадушны і разумее, з чаго пачынаецца вялікі спорт, выказацца і не застацца ўбаку»*.

Таксама Дзмітрый накіраваў відэазварот да кіраўніка краіны і Нацыянальнага алімпійскага камітэта Аляксандра Лукашэнкі.

Адным з першых, хто не застаўся ўбаку, быў шасціразовы алімпійскі чэмпіён па спартыўнай гімнастыцы **Віталь Шчэрба**, які зараз жыве ў ЗША і мае там сваю гімнастычную школу.

*«Ды нахабнічаюць бюракраты!* – пракаментаваў ён сітуацыю. – *А медалі ім падавай! Няма на іх мяне… Калі я яшчэ быў на слыху, гэтыя самыя бюракраты баяліся і рабілі ўсё, каб мне дагадзіць. А зараз, калі б быў нават мільярдэрам, нічога зрабіць немагчыма. Мае мільярды – гэта пясок у іх вітальным пакоі, а маё слова зусім нічога не значыць. А вось 15 год таму, калі я дзверы міністра спорту нагой адчыняў, бегалі ў прыбіральню перад сустрэчай са мной. Я нават нічога не мог зрабіць, калі маю гімнастычную залу, дзе я ўсё жыццё трэніраваўся, забралі для дзяўчат-гімнастак. І дзе зараз тыя гімнасткі??? А я спрабаваў, змагаўся… Усё без толку. І зараз так будзе, мы толькі можам рохкаць, біцца галавой аб сценку, а выніку не будзе!»*

Коратка выказаўся і наш вядомы трэнер **Віктар Дойлідаў**: *«Гэтую залу трэба абавязкова захаваць!»*

Аднак у армейцаў з гэтай нагоды свая пазіцыя і свае разлікі. Як паведаміў tut.by першы намеснік старшыні Спартыўнага камітэта Узброеных сіл Беларусі **Кірыл Чупрыс**, Дзмітрый Каспяровіч арандаваў залу каля дзвюх гадзін у дзень, *«памяшканне стаяла пустым, і мы неслі сур'ёзныя страты»*. І пры гэтым дадаў: *«Мы не маем права траціць дзяржаўныя грошы на камерцыйную структуру, хаця гэта і прыносіць карысць і здароўе дзецям»*.

Клуб Дзмітрыя Каспяровіча і на самай справе зарэгістраваны як ААТ «Гімнастыка для кожнага». Кірыл Чупрыс адзначыў, што, маўляў, калі б размова ішла пра спорт высокіх дасягненняў, то, безумоўна, *«пытанне разглядалася б па-іншаму»*.

Сам жа Каспяровіч кажа, што вялікага прыбытку ў такім бізнесе няма, ён працуе больш за ідэю. Зараз ён часова знайшоў для заняткаў гімнастыкай іншую залу ў горадзе, але ўсё-такі спадзяецца на станоўчае вырашэнне пытання з залай у Доме афіцэраў.

На гэтым тыдні Дзмітрый Каспяровіч таксама сустракаўся з міністрам абароны, але, паводле нашай інфармацыі, да нейкага кампрамісу бакі не прыйшлі. Міністэрства абароны засталося на сваіх пазіцыях, якую, да слова, яшчэ ёсць час змяніць. Гімнастычная зала і насамрэч гістарычная. Не ўсё ж вымяраецца грашыма…

**Алесь СІВЫ.**

Фота tut.by.



ПЕРСОНА

# Черная боль, легкая смерть

## *О родительских страданиях, которые мешают безнадежно больным детям*

***Перед Анной Георгиевной ГОРЧАКОВОЙ, директором некоммерческого объединения «Белорусский детский хоспис», проходит огромная череда людей – причем по обе стороны горя. Разного рода солидные благотворители, государственные чиновники, а главное – неизлечимо больные дети и их отчаявшиеся родители. Это очень большой спектр социума. Огромный пласт уникальных эмоций, сложных взаимоотношений. Одни жертвуют деньги и потому хотят властвовать над тобой. Другие тоже предъявляют на тебя права – как люди неподдельно страдающие и потому в чем-то избранные. Да, большое горе дает человеку порой и такое ощущение...***

***А директор хосписа для тех и других должен быть своего рода проводником. Потому что именно благодаря ему деньги одной стороны становятся Даром (и человек чувствует себя на ступеньку выше). И благодаря также его стараниям у другой стороны – у детей и их родителей – всемогущая боль становится тихой мудростью, а страдание, готовое отнять разум, не переходит по крайней мере в черную злобу и отчаяние.***

***Но что при этом чувствует сама Анна Георгиевна? Что чувствует человек, чья ежедневная работа – человеческое горе?***

**– Спрошу напрямик: вы сталкивались с подозрительностью благотворителей?**

– Нет. Но я абсолютная реалистка, людей принимаю такими, какие они есть. Да, с каждым годом собирать деньги все сложнее. Все обязательно спрашивают: «Что, государство вам не помогает?» Это о многом говорит: психологически у наших людей вся надежда на государство. Но хоспис – объединение общественное.

**– А с родительским гневом? Люди в горе часто непредсказуемы...**

– Крайне редко. Мы ведь ничего не обещаем. Взрыв эмоций бывает, когда обещали и не дали: обещали, что ребенок выздоровеет, обещали лучшие лекарства... А обижаться каждый имеет право. Один раз человек вот здесь, в кабинете, кричал на меня. От отчаяния. Потом я спросила его: «Вам легче стало?» Он ответил: да, извините. Я сказала: «Приходите еще». Самая приятная часть нашей работы – это с нашими пациентами. У детей нет обид и требований.

**– Как же они справляются с настроением? Или больные детки просто не осознают в полной мере свой недуг?**

– Зато они прекрасно знают, что такое счастье. Как мне сказала одна пациентка: «Счастье – это когда ты сам ложкой можешь есть свой суп». Когда твои ноги ходят, руки двигаются, когда свою слезу ты можешь утереть со щеки сам. Так что с детьми легче всего. А с родителями – да, трудно: когда они ухаживают за детьми 24 часа в сутки, их психика деформируется. И сложно было бы ожидать иного, когда твоя жизнь повернулась на 180 градусов. Но я не могу сказать, что жизнь стала у них хуже, потому что для очень многих родителей она осветилась настоящим смыслом.

**– Болезнь ребенка становится смыслом жизни взрослого? Звучит парадоксально.**

– Когда в семье рождается смертельно больной ребенок – это стресс, это то, во что поверить нельзя. Нельзя поверить в то, что твоя жизнь полностью остановилась, ты перестал быть тем, кем был, а стал лишь обслуживающим придатком к больному ребенку. Поэтому очень многие, чтобы выжить, уход за ребенком возводят в смысл своей жизни. Люди вживаются в роль и по-другому жить уже не могут. А мы, хоспис, и другие организации существуем именно для того, чтобы этой деформации с человеком не происходило. Ни больной ребенок, ни здоровый не может и не должен быть смыслом жизни.

**– И вы пытаетесь это объяснить родителям... Какая реакция?**

– Нет, что вы, слова в таких ситуациях вообще бесполезны. Мы на практике пытаемся хоть немного облегчить их жизнь, мы первые начали программу «Социальная передышка», по которой берем ребенка из семьи в стационар, чтобы на какое-то время освободить родителей. Но они сначала не хотели отдавать нам своих детей!

**– Не доверяли?**

– Человек не может сразу уложить ситуацию в сознании: забирают смысл жизни – а что я буду делать без него? Первых мы буквально заставляли силой. Говорили: «Или снимаем с опеки, или отдавайте ребенка в стационар».

**– Выходит... манипулировали?**

– Да! Применяли шантаж. Потому что вы бы видели: рыдая, они привозили детей в хоспис, как в тюрьму, а потом звонили сюда чуть ли не каждый час. А когда через неделю забирали своего ребенка и тот не хотел ехать домой, у них опять начинался стресс...

**– А почему дети не хотели возвращаться домой?**

– У вас есть дочка. Скажите, она нуждается в вас 24 часа в сутки?

**– К сожалению, уже нет...**

– К счастью – нет! Дети с недугом тоже хотят быть в других коллективах, хотят хоть немного почувствовать свободу от родительской опеки. Да и родителям это полезно – передышка. Первую неделю мама без своего ребенка ходит вокруг телефона и ждет от нас звонка. Но потом спазм проходит, и она вспоминает, что можно сходить со вторым ребенком в кино или даже самой зайти в парикмахерскую. И постепенно втягивается в обычную жизнь, начинает видеть смысл в мелочах, которые долгие годы были ей недоступны: генеральная уборка, шопинг, даже короткий отдых. Понимаете? И жизнь ее становится гармоничнее, а значит, легче.

**– А что происходит с родителями, когда ребенок уходит?**

– Куда уходит?

– Умирает...

– Не надо бояться этого слова – «умирает». Процесс горевания у тех, кто посадил себя в «тюрьму», длится гораздо тяжелее и дольше, годами. Одна мама мне так и говорила: моя жизнь стала гораздо хуже, чем когда я, отрекшись от себя, ухаживала за безнадежно больным ребенком. Теперь жизнь просто невыносимо серая: дом – работа, дом – работа.

**– Но точно так же проходит жизнь и у нас: дом – работа.**

– Вот правильно вы сказали! Но у нас этот процесс окрашен, а у нее он серый. Хотя тоже пройдет со временем.

**– Смерть – это ваш почти ежедневный рабочий фон. Вы привыкли к этому?**

– Не привыкла. Если это становится для тебя нормальным, значит, надо переходить работать в морг. Мы переживаем каждую смерть.

**– Первую помните?**

– Да я работала еще в онкоцентре. Ниночка, 11 лет, рак яичников. Удивляетесь? Такой диагноз и у трехлетних бывает... Запоминаются определенные люди – ведь ты не можешь любить всех пациентов одинаково. Ты должна относиться ко всем одинаково, но одни дети западают в душу, другие нет. Скажу одну вещь: дети умирают легче, чем взрослые, они спокойнее отпускают жизнь.

**– Красивая смерть?**

– Я не верю в красивую смерть, на практике не видела – физиология осечек не дает. Бывает хорошая смерть: человек не мучается, когда наступает конец его страданиям. А родителям всегда тяжело, любовь их так безгранична, что иссушает их. Когда умирают наши пожилые родители – умирает наше прошлое. Когда умирают дети – умирает наше будущее. Родители сидят не просто у постели умирающего ребенка, они сидят у своего собственного умирающего будущего. И горюют не только по ребенку, они горюют по себе: умирают их планы и мечты. И детям это передается и... мешает. И мы работаем с родителями...

**– У нас в стране теперь достаточно обезболивающих средств?**

– Лекарств достаточно, мозгов недостаточно. Медики боятся выписывать некоторые обезболивающие, у них до сих пор страх перед морфином, диазепамом. А уж выписать апо-диазепам – это вообще ни Боже мой! У нас в стране диазепамофобия, чтоб вы знали. Врачи боятся Следственного комитета, их все время тюкают проверками, они не виноваты. Хотя тупаков везде хватает. Но у нас слишком жесткая система, и профессионалам в ней тяжело двигаться.

**– Работа в хосписе повлияла на вашу личную судьбу?**

– Хоспис и есть моя судьба.

**– Можно спросить, какая у вас зарплата?**

– 600 рублей.

**– Но вы же наверняка можете заработать больше.**

– Нет! Есть определенные правила работы в благотворительных организациях. Главное – это пациенты. Это во-первых. Во-вторых, если я могу повысить зарплату, то делаю это врачам и медсестрам. А с кого первого зарплату снять – так это с себя, администрации. Я почему существую 25 лет и люди доверяют мне свои деньги? Потому что я прозрачна и не барствую на чужие средства. Работая в благотворительности, очень важно не перешагнуть некую тонкую моральную грань. Когда я еще в 1990-е годы работала в онкоцентре, туда великим потоком шла гуманитарка с Запада, и вы не представляете, какого она была качества! Стиральные машины, новые дубленки и всякая всячина, которую мы тогда в глаза не видели.

**– Дубленки в онкоцентр?**

– Детям и их родителям. Однажды мне как клиническому психологу онкоцентра разрешили зайти в эти «закрома», потому что я работала с девочкой-сиротой из интерната. Предложили: «Возьми все, что надо, для нее. И для своих тоже можешь взять». И вот я пришла, и у меня загорелись глаза: «Это – старшей, это – младшей! А это для меня». Но вдруг чувствую, моя душа вышла и как будто смотрит со стороны: женщина с нездоровыми красными пятнами на лице, с горящими глазами, аж потная, роется в вещах. И я сказала себе: «Стоп, Аня!» И – не перешагнула эту грань. Да, я имею право, я работаю с тяжелыми детьми. Но ты оправдала себя раз, второй, третий, а потом уже на твоей голове надета корона. Которая вообще-то имеет свойство вызывать энцефалопатию, изменение мозга. А я этого очень боюсь,. и сама себе поставила барьер.

**– И ни разу с тех пор не испывали искушений?**

– Искушений по-прежнему достаточно, я имею доступ к неконтролируемым вещам. Но я знаю, что у человека должен быть барьер, который он не переступит ни при каких обстоятельствах. В нашей работе это очень важно, и надо быть все время начеку, тренировать свою совесть. Потому что планка требовательности к себе имеет тенденцию снижаться.

**– По каким критериям вы набираете в хоспис кадры?**

– В первую очередь я требую ответственности. Я не люблю слово «жалость». Меня пугают люди, которые с горящими глазами говорят о своей миссии. Я их даже боюсь. Потому что у нас не миссия, у нас работа, а ты не Господь Бог и не мама Тереза (о которой я слышала много разного).

**– Фанатичные люди весьма агрессивны...**

– Да. И мне фанатизма не надо, мне нужна, повторяю, ответственность. Второе – инициативность. Это большой дефицит.

**– Я знаю, что вы сами пережили большую беду – потеряли дочь, она погибла в результате нападения. Вы стали лучше понимать родителей ваших пациентов?**

– Каждое горе очень субъективно. Мне моя трагедия в работе мешала. Поймите одну важную вещь. Общее – это счастье. А горе – оно индивидуально: мое горе самое горькое. Нельзя сравнивать горе, это оскорбительно. Ты начинаешь рассказывать, что ты пережила, а другого это не интересует, потому что я – это я. Скорее мне помогла моя генетика, у меня хорошая сопротивляемость. Мой мозг просто выключился, я работала как зомби. И мне помогли мои пациенты.

**– И через какое время мир снова стал цветным?**

– Черно-серым он оставался первые три недели, пока моя дочь считалась без вести пропавшей. А когда мы ее похоронили, мир стал снова цветным.

**– Преступников наказали?**

– Один сидит пожизненно, второй, тогда 17-летний, уже вышел на свободу.

**– Можно спросить, ваш брак потом не распался?**

– Интересный вопрос. Бывает, в горе люди расходятся – это часто. Но я очень благодарна моему мужу за его правильное поведение в тот момент. Он был моей поддержкой. И это всякий раз потом меня останавливало, когда импульсивно хотелось сделать шаг в сторону разрыва.

**– А слово в горе помогает?**

– Нет, не помогает. Просто надо быть рядом и не очень назойливо. Еще раз: горе – очень индивидуально.

**– И последнее – в чем смысл жизни?**

– Честно? Я никогда его не искала, не задавалась таким вопросом. Он у меня просто был. Я вообще не собираюсь это понятие ограничивать какими-то словами. Вот сидишь порой летом в кресле-качалке и смотришь на облака – здорово... Вот вам и смысл.

**Елена МОЛОЧКО.**

ЧУЛІ?

# «Буслік» купляюць палякі

## *Польскі рытэйлер дзіцячага адзення CDRL S.A. збіраецца набыць 90% акцый беларускай гандлёва-прамысловай групы West Ost Union, што валодае ў Беларусі сеткай дзіцячых крам «Буслік».*

Гэта вынікае з паведамлення польскага акцыянернага таварыства, апублікаванага на сайце Варшаўскай фондавай біржы, піша belretail.by. У паведамленні гаворыцца, што CDRL S.A. падчас перамоў з прадаўцамі – Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця і чатырма фізічнымі асобамі – узгадніў умовы пакупкі 90% акцый West Ost Union. Агульны кошт акцый складае 6,39 млн долараў. Ён будзе выплачаны на падставе дагавора куплі-продажу акцый, які будзе заключаны пасля атрымання згоды Міністэрства антыманапольнага рэгулявання Рэспублікі Беларусь.

ФАКТ

# Беларусь – трэці гандлёвы парнёр Украіны

## *Першыя два радкі займаюць Еўрасаюз і ЗША.*

Статыстыку тавараабароту Украіны з замежнымі краінамі па выніках 8 месяцаў 2018 года апублікавала ўкраінскае Міністэрства эканомікі і гандлю.

Што тычыцца беларуска-ўкраінскіх гандлёвых стасункаў, то, як паведамляе ведамства, сёлета тавараабарот паміж нашымі краінамі можа дасягнуць 6 мільярдаў долараў. За студзень–жнівень ён перавысіў 3,5 мільярда, павялічыўшыся ў параўнанні з аналагічным перыядам 2017 года на 23%. У 2019 годзе Кіеў і Мінск плануюць давесці аб'ём гандлю да 7–8 мільярдаў долараў, а к 2020-му выйсці на лічбу ў 10 мільярдаў за год.

НАУКА И ЖИЗНЬ

# Александр ВОЙТОВИЧ: «В Академии наук стало больше девушек, возможно, для них, учитывая наши реалии, это неплохой вариант трудоустройства...»

На торжественном собрании, посвященном 90-летию со дня основания Национальной академии наук Беларуси, ее глава в 1997–2001 годах **Александр Войтович** удостоился нагрудного знака. Вместе с ним нагрудный знак имени Всеволода Игнатовского получили **Владимир Гусаков, Михаил Мясникович, Анатолий Русецкий** – руководители Академии наук в разные годы.

Зная, как остро Александр Войтович критикует не только положение дел в белорусской науке и академической среде, но и нынешнюю власть, вручение пусть не государственной, а академической награды на сцене в присутствии огромного количества коллег-ученых кому-то могло показаться неожиданным. Сам Александр Павлович комментировать этот факт отказывается. Однако по-прежнему готов рассказывать о том, чем сегодня живет белорусская наука, стали ли, например, лучше жить ученые страны после прошлогодних обещаний значительно повысить им зарплаты (был даже издан специальный указ президента).

– *В бюджетных организациях Национальной академии наук среднемесячная зарплата за январь–сентябрь составила 930,5 рубля, то есть до 500 долларов не дотянули,* – говорит Александр Войтович. – *Недавно кто-то из руководителей Академии на встрече с журналистами сделал сенсационное заявление, что некоторые сотрудники получают более 4 тысяч белорусских рублей в месяц. Мы потом спрашивали друг у друга: кто эти сотрудники? Этих людей никто не знает. Так покажите их нам, чтобы все знали, за что им платят такие деньги, может, и мы бы так работали! Но нет. Это секрет. Спрашивается: почему это держится в тайне? Мы – государственная, бюджетная организация, а не коммерческая фирма, владелец которой, возможно, имеет право не разглашать зарплаты своих сотрудников в коллективе.*

*На мой взгляд, это ненормальная ситуация. И это одна из причин того, что в белорусскую науку не идет молодежь. 930 рублей не могут быть мотивацией, поэтому молодые люди здесь и не задерживаются. За такую зарплату содержать семью не получится, не говоря о покупке квартиры... Я сегодня замечаю, что в Академии наук стало больше девушек, возможно, для них, учитывая наши реалии, это неплохой вариант трудоустройства – есть постоянная работа, какие-то социальные гарантии, это определенный статус. А молодые ребята в белорусской науке – это, к сожалению, исключение, не правило. И, конечно, это не может не беспокоить.*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

НЕСТАНДАРТ

# Ірына ЛЯШКЕВІЧ: «Свой дом у 150 «квадратаў» я адрамантавала сама»

*Настаўніца з вёскі Мачуль Столінскага раёна адна падняла трох дзяцей, заснавала новую сям'ю. Цяпер гадуе дачку-школьніцу, даглядае дом ды карову Машу. І – перамагае ў паэтычных конкурсах вершамі пра каханне.*

## Дом

«Яго будавала з бацькам, – расказвае спадарыня Ірына. – Заўважыла неяк, што гуляць сталі па ім скразнякі. На рамонт узяла ў банку крэдыт на чатыры гады: у пераліку на еўра каля тысячы. А на працы непрыемнасці – начальства не ўзлюбіла, давялося сысці з бібліятэкі, а ў школе педнагрузкі поўнай не далі. Дык за што крэдыт той аддаваць? І мужа яшчэ пасунулі з працы. За што сям'ю карміць? Але справілася. Нават на кірмашы ў Альшанах цукеркамі гандляваць давялося, але і рамонт скончылі, і крэдыт сплацілі.»

## Дзеці

Паводле адукацыі Ірына Ляшкевіч бухгалтар-эканаміст (скончыла мінскі «наргас«), але «сэрца заўсёды належала прыгожаму». З малога ўзросту спявае палескія і не толькі песні, асвоіла баян. Працаваць пайшла ў сістэму адукацыі. Найбольшай заслугай Ірыны Ляшкевіч аднавяскоўцы лічаць фальклорны гурт «Згадка», які яна заснавала.

Яе выхаванцы бралі першыя месцы на фестывалях. Ездзілі на фальклорныя святы ў суседнюю Украіну, выступалі з ёй на прэзентацыі яе кнігі вершаў «Вас я чакала» у Брэсце, Мінску. Гурт «Згадка» называюць узорным.

А вось «тылы» ў Ірыны ад пачатку аказаліся не вельмі надзейнымі. «Мабыць, памылілася я па маладосці, – разважае спадарыня Ірына. – Давялося выпраўляць-выцягваць воз самой... У мяне сын і дзве дачкі ад першага шлюбу і дачка з цяперашнім мужам, Грышам. Старэйшыя вызначыліся ўжо, маю пяцёра ўнукаў. А вось малодшанькая Таццянка яшчэ ў школку ходзіць, а за восем кіламетраў яшчэ і ў музычную школу. Любіць малако, таму трымаем карову Машу. А гэта такі клопат! Сёння карова на падворку – рэдкасць, таму няма, як было раней, агульнага статку, які пасвілі аднавяскоўцы па чарзе. Даводзіцца ўсё рабіць самой. Так склалася, што муж працуе аддалена, з'язджае, таму выпас каровы, нарыхтоўка сена на зіму – мой клопат. Маці толькі калі-нікалі падаіць Машку дапамагае».

Пытаюся, ці была думка прадаць карову. «Не, пра гэта і не думала нават», – кажа Ірына.

## Вершы

Паэзія для вясковай настаўніцы музыкі – гэта сродак самавыяўлення. Пагадзіцеся, радкі самавітыя:

*«Каханне трэба заслужыць // ці нават вымаліць у Бога, // Каб на апошняй той мяжы // не вінавауціць анікога. // Лепш адзінота без маны, паклон адбіць свайму парогу, // Лепш прыхінуцца да сцяны, // чым да пляча, табе чужога...»*

Гэты фрагмент верша пацвярджае назіранне крытыка **Эдуарда Дубянецкага**, што стыль аўтаркі спеўны, слова простае, але па-народнаму сакавітае. У ім *akavita* – жывая вада.

Вершы прынеслі настаўніцы з Мачуля і першае месца ў сёлетнім беларускім, а па факце міжнародным, конкурсе на лепшы верш пра каханне літаратурнай серыі «Амерыканка» (168 удзельнікаў, пяць моў), і ўкраінскую прэмію імя П.Красюка за лепшую кнігу паэзіі «Сувой» (2013).

## Мары

Наколькі я зразумеў з нашых размоў-бясед з прадпрымальнай настаўніцай, у яе дзве мары. Першая – адрамантаваць яшчэ адзін дом, стары мужаў. Вось каб яшчэ зямелькі пад яго – шукае гаспадарлівае паэткіна вока. *«Добрая аграсядзіба была б. У нас прырода ўнікальная. Лес, цудоўная рэчка Моўства. Ездзілі б гарадчукі»*. Яны і цяпер у сезон ездзяць да Ірыны – паэтка багатая на сяброў: характар мае камунікабельны.

Другая мара – новыя вершы. Яны – яе паветра, таму такія шчырыя і шчымлівыя.

Мне верыцца: пабудуе яна – выбачайце! – напіша свой лепшы верш.

**Яўген БЯЛАСІН.**

**На здымку: Ірына Ляшкевіч на прэзентацыі кнігі «Вас я чакала» ў Брэсце.**

КАНФЛІКТ

# Дызайнер і мастак супраць ЖЭС-арта ў старым Гродне

*Паводле меркавання дызайнера **Ірыны Працко** і мастака **Алеся Сурава** арт-аб'екты, якія з'явіліся ў апошні час у старым Гродне, не проста не адпавядаюць гістарычнаму духу каралеўскага горада, а сведчаць аб безгустоўнасці тых, хто іх усталяваў.*

Працко і Сураў выступаюць за тое, каб са старой часткі горада прыбралі сметніцы ў форме лэдзі і джэнтльмена, недарэчны глобус з тонкіх прутоў дроту, скульптуру першай гродзенскай пячаткі, якая невядома чаму валяецца на кветніку, а таксама іншыя так званыя арт-аб'екты з пластыка і фанеры, якія дызайнер і мастак называюць ЖЭС-артам.

Новы гатэль прадпрымальніка Сямашкі на вуліцы Калючынскай.

Помнік падарожніку на вуліцы Савецкай.

## У асяроддзі старажытнага горада ўсё вельмі кранальна

Ірына Працко перакананa: сярод найбольш значных для кожнага чалавека рэчаў асяроддзе, у якім ён жыве, займае не апошняе месца. Ёсць адмыслоўцы, якія займаюцца ментальным здароўем чалавека – арт-тэрапіяй: падчас розных вандровак чалавек сутыкаецца з рознымі відамі мастацтва, і гэта ўплывае на яго псіхічны стан і нават дапамагае вылечыць некаторыя захворванні. А ў старажытным горадзе, лічыць Ірына, усё вельмі кранальна.

«*Тут усё патрэбна рабіць вельмі прафесійна, сціпла, дасканала і прадумана,* – зазначае дызайнер. – *Я не лічу сваё меркаванне ісцінай у апошняй інстанцыі, але ў дадзеным выпадку ўсё маё нутро супраць гэтага злачыннага засілля смецця. Такія рэчы можна было зрабіць на прыватнай сядзібе любога з нашых функцыянераў ад ЖЭСа, але такое нікому не дазволена выстаўляць у старажытным каралеўскім горадзе*».

Падобныя арт-аб'екты Працко называе рэчавым экстрэмізмам: калі чалавек не бачыць вакол сябе нічога, што яго ўзвышае, падтрымлівае ў пазнанні свету, і не адчувае нічога, акрамя агіды, то такое асяроддзе спусташае і разбурае.

«*У нас жа сядзяць цэлыя кабінеты людзей, якія займаюцца культурай, архітэктурай, упарадкаваннем горада. Няўжо яны не бачаць, што адбываецца?*» – здзіўляецца неабыякавая гродзенка.

## Бізнес не можа быць важнейшы за здаровы сэнс

Апошняя кропля, якая прымусіла Ірыну Працко публічна выказацца пра аздабленне старога Гродна, – гатэль прадпрымальніка Сямашкі на вуліцы Калючынскай, які адкрылі на мінулым тыдні.

«*Такі кітч – і ў самым цэнтры Гродна! Нонсэнс!* – кажа Працко. – *Гэты будынак не ўпісваецца ў асяроддзе, ён не пасуе ні па стылі, ні па архітэктуры, ні па традыцыі забудовы нашага горада, ён ні з чым не стасуецца. Зразумела, што і ў еўрапейскіх гарадах імкнуцца прадаць разбураныя будынкі ў цэнтры, каб з іх зрабілі цукерку. Але там ніхто не дазволіць нават куст пасадзіць лішні, калі яго не было ў тым жа XVIII стагоддзі, не тое што змяніць архітэктуру, не дапасаваўшы яе да таго, што навокал*».

Сама ідэя зрабіць гэты гатэль насупраць турмы не змяшчаецца ў галаве. Ірына іранізуе, што варта было б аддаць Сямашку ў доўгатэрміновую арэнду будынак гродзенскай турмы: «*Вось гэта быў бы бізнес: кліенты напачатку пасмакуюць умовы жыцця ў турэмных камерах, а потым заначуюць у фешэнебельным гатэлі насупраць! Бо як яшчэ на гэта глядзець, калі гарадское начальства паставіла на мэту рабіць любым спосабам грошы на турыстах?*»

Мастак Алесь Сураў, якога ведаюць у Гродне па шматлікіх выстаўках і дызайнерскіх распрацоўках, кажа, што яму асабліва сорамна за аздабленне, якое зроблена побач з гатэлем: «*Гэтыя анёлы і фантанчыкі побач з будынкам гатэля ў цэнтры старога Гродна – папросту бескультур'е і здзек з тысячагадовага горада!*»

## Фотазоны

Адна з фотазон у парку імя Жылібера ўяўляе сабой сэрца з надпісам «Гродно». Алесь лічыць, што нават для самага заняпалага расійскага курорта гэта было б ганьбай, паколькі ідэя абсалютна папсовая, а выкананне таннае і далёкае ад паняцця «мастацтва».

Ратонда на вуліцы Дарвіна.

Глобус на месцы былой ратушы.

«*І гэта ў сярэдзіне Еўропы, дзе хадзіў і працаваў спадар Жылібер, дзе месціцца батанічны сад, які ведала ўся Еўропа, Швейцарская даліна, якая павінна адраджацца!* – усклікае мастак. – *Я даўно ўжо працую ў дызайне і добра памятаю, як, калі галоўным архітэктарам быў Уладзімір Анісімаў, нікому не дазвалялася рабіць рэкламу нават з пластыка, не тое што з фанеры, як зараз. Нават маленькая шыльдачка – гэта была коўка альбо шкло, кераміка. Гэта былі сур'ёзныя аб'екты. А тут такі прымітыў!*»

## Сметніцы – тое, што павінна быць незаўважным

Новыя сметніцы ў выглядзе лэдзі і джэнтльмена – адны з першых арт-аб'ектаў у стылі ЖЭС-арт, якія з'явіліся ў горадзе.

«*Гэта не інакш як нечая хворая фантазія,* – нявесела ўсміхаецца Сураў. – *Цяжка ўявіць у еўрапейскім горадзе сметніцу ў выглядзе джэнтльмена без галавы. У мяне адчуванне, што гэта і рабілі людзі без галавы. Я яшчэ зразумеў бы, калі б іх усталявалі недзе ў двары калгаснай майстэрні дзеля забавы. Але ў цэнтры старога Гродна сметніцы засмецілі вуліцы*».

Сметніца... без галавы.

«*Сметніцы – гэта тое, што павінна быць, але незаўважным,* – падкрэслівае Ірына Працко. – *Сметніцы павінны быць папросту функцыянальнымі, як гэта і ёсць у еўрапейскіх гарадах, і ім не варта дадаваць нейкі іншы сэнс, бо інакш гэта не што іншае, як кепскі густ*».

## Магдэбургская пячатка – гэта сакральная рэч

Ірына Працко не можа зразумець, навошта першую гродзенскую пячатку зрабілі ў выглядзе вялікага помніка і ўсталявалі на кветніку.

Помнік Магдэбургскай пячатцы Гродна.

«*Магдэбургская пячатка – гэта сакральная рэч, гэта скарб, з якога пачыналася наша еўрапейская культура,* – упэўнена Працко. – *Яна не паддаецца маштабіраванню. А тут зляпілі з пластыка і бухнулі на кветнік. Што гэта? Дзе тут мастацкая ідэя, што хацелі гэтым сказаць жэсаўскія майстры? Асвоіць грошы да нейкага свята?*»

Алесь Сураў вельмі негатыўна ставіцца да глобуса, які ўсталявалі на месцы былой гарадской ратушы. Як ён гаворыць: звараны з жалезных прутоў глобус выкананы ў стылі жэсаўскага зваршчыка.

«*Эстэтычны выгляд гэтага глобуса проста недапушчальны! Нехта ж павінен быў звярнуць увагу на тое, што выстаўляецца ў цэнтры горада!*» – абураецца мастак.

## Падарожнік з Іркуцка?

З новых арт-аб'ектаў найбольш абмяркоўвалі помнік хлопцу-падарожніку, які ўсталяваны на вуліцы Савецкай. Блогеры знайшлі, што гэта копія помніка, які стаіць у Іркуцку.

«*Што гэта за цуд пасярод Гродна?*» – задаецца пытаннем Ірына Працко.

Яна распавядае, што некалькі гадоў таму ў Гродна прыязджаў архітэктар з Рыма. Яны разам хадзілі па горадзе, і ён высока ацаніў гістарычны цэнтр: маўляў, добра збудаваны і скампанаваны, удала ўпісваецца ў ландшафт, усё разумна размеркавана.

«*Адзінае, да чаго ён меў прэтэнзіі як адмысловец, – да таго, як зроблена ліўневая сістэма,* – распавядае спадарыня Ірына. – *Паводле яго меркавання, яна не вытрымлівае ніякай крытыкі. Але гэтую сістэму рабілі ўжо ў савецкі час. А што б ён сказаў, калі б пабачыў увесь гэты кітч у старым горадзе?*»

## Без мастака

Ратонду на пляцоўцы над Нёманам на вуліцы Дарвіна ўсталявалі адмыслова для таго, каб аглядаць з узвышша Гродна, рабіць здымкі. Адтуль адкрываецца самая прыгожая панарама горада. А вось сама «бяседка» вельмі засмучае дызайнера.

«*Каркас з дроту – звычайны кітч, усё бязглузда і безыдэйна – зроблена без мастака жэсаўскімі ўмельцамі. Ратонда не ўпісваецца ні стылістычна, ні па колеры. Але гэта ж не прыватная пляцоўка, гэта найпрыгажэйшае, найважнейшае месца нашага горада, дзе чалавек ад захаплення дыхаць праз раз павінен. І каму гэта сказаць?*»

## «А людзям падабаецца...»

На гродзенскіх сайтах часта друкуюць уражанні турыстаў з Расіі і краін Балтыі, і ў пераважнай большасці яны не хаваюць захаплення ад таго, што пабачылі ў Гродне. Ірына Працко мае на гэта свае аргументы:

«*Гэта меркаванне тых, хто вырас у гэтым трэшы. Гэта вельмі небяспечна, паколькі выхоўвае цэлыя пакаленні без густу. Гэта фастфуд – самы дрэнны, самы нізкапробны. Я яшчэ магу зразумець, калі такія рэчы робяцца для нейкага перформанса, але гэта не можа ўсталёўвацца на пастаянна ў такім горадзе, як наш. Каб нейкую рэч можна было назваць творам мастацтва, у ёй павінна быць мастацкая ідэя, адкрыццё. А калі нешта робіцца з дроту, бляхі і выканана жэсаўскім зваршчыкам, то ўсё гэта папросту не вытрымлівае ніякай крытыкі. І выстаўляць гэта ў цэнтры старажытнага еўрапейскага горада – ганьба!*»

Алесь Сураў дадае: каб Гродна застаўся каралеўскім горадам, роўнага якому ў Беларусі больш няма, трэба падтрымліваць гэты статус:

«*Наш горад належыць да еўрапейскай культуры. Тут усё дасканала, кожны каменьчык на сваім месцы, тут нічога нельзя проста так узяць і змяніць, пераставіць. Ну, калі вы не давяраеце сваім адмыслоўцам, наймiце замежнага кансультанта, як некалі рабілі нашы каралі, калі будавалі горад. Тут не можа быць кампрамісу – трэба слухаць прафесіяналаў. Нельга ісці на павадку ў кепскага густу. Гэта тое, што нельга прапускаць праз рэферэндум*».

## Што рабіць?

Ірына Працко са скрухай уздыхае: змагацца з беларускай бюракратыяй вельмі складана. Прыкладам можа служыць рэстаўрацыя Старога замка ў Гродне. Гісторыкі, адмыслоўцы спрабуюць дамагчыся, каб рэстаўрацыя адпавядала еўрапейскім нормам, але іх ніхто не хоча слухаць.

«*Я лічу, што трэба ўсё ж звяртацца ў нейкія міжнародныя інстанцыі, каб яны ўплывалі на тое, што знікае гістарычная спадчына Гродна. Я буду звяртацца ў Саюз дызайнераў Беларусі, каб яны далі гэтаму сваю прафесійную ацэнку. Бо, калі такое будзе працягвацца, мы страцім наш горад*», – упэўнена дызайнер.

***«Народная Воля» запрашае нашых чытачоў і зацікаўленых асоб узяць удзел у абмеркаванні гэтай тэмы і выказваць свае думкі і меркаванні адносна з'яўлення ў гістарычнай частцы Гродна і іншых гарадоў новых арт-аб'ектаў.***

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 ЛІСТАПАДА 2018 г.

СТОП-КАДР

# Мелани Трамп украсила Белый дом к Рождеству



**Месяц остается до новогодних праздников, и потихоньку все начинают к ним готовиться. Вот и в Белом доме уже установили елки, а первая леди США украсила комнаты.**

**В этом году преобладает красный цвет, вышло очень по-домашнему. Фотографии убранства опубликованы на странице Белого дома во Flickr.**

РЕАКЦИЯ

# Керченский кризис: в Германии новая дискуссия об отмене «Северного потока-2»

После столкновения военных кораблей России и Украины у Крымского моста в Германии вновь усиленно призывают остановить спорный проект «Газпрома». DW поговорила с экспертами.




Россия совершила в Керченском проливе *«вопиющее нарушение международного права»* в отношении Украины, а потому *«правительство Германии должно по политическим причинам отказаться от крайне спорного газопровода «Северный поток-2»*. С таким заявлением выступила сопредседатель партии «Союз-90/»зеленые» **Анналена Бербок**.

### Призывы к ужесточению санкций против РФ

Свое требование лидер германских «зеленых», находящихся сейчас в оппозиции, но быстро набирающих популярность и имеющих реальные шансы войти в следующую правительственную коалицию, озвучила 27 ноября в беседе с газетой Die Welt. Одновременно с таким же призывом выступила другая консервативная немецкая газета – Frankfurter Allgemeine Zeitung (FAZ).

28 ноября многие немецкие СМИ процитировали посла Украины в Германии **Андрея Мельника**, который в интервью общественно-правовой радиостанции Deutschlandfunk призвал Запад и Германию с целью предотвращения дальнейших агрессивных шагов России ужесточить санкции против нее и, в частности, остановить «Северный поток-2». К этому же призвал и министр обороны Эстонии **Юри Луйк.** Интервью с ним распространило агентство Reuters.

В тот же день по поводу «Северного потока» дискутировали в Брюсселе депутаты Европарламента, и немецкий кандидат на пост председателя Еврокомиссии **Манфред Вебер** от консервативной партии ХСС призвал пересмотреть участие в проекте. А в Берлине его прекращения потребовал спецпредставитель Госдепартамента США по Украине **Курт Волкер**.

Итак, самые разные политики и журналисты вновь настоятельно требуют от правительства **Ангелы Меркель** и фактически от нее лично, не раз высказывавшейся о «Северном потоке-2», остановить этот проект. В то же время эксперты – причем как его сторонники, так и противники – в своих рекомендациях куда более сдержанны и советуют не спешить с санкциями.

### Аргументы за и против «Северного потока-2»

**Кирстен Вестфаль** – эксперт SWP по энергетической политике ЕС, ее можно причислить к сторонникам «Северного потока-2», хотя она, по ее словам, вполне осознает «геополитическое измерение проекта» и его последствия для Украины.

Однако, продолжила она в беседе с DW, *«с чисто экономической точки зрения – растущая потребность ЕС в импорте газа, географическая близость источника, многолетний опыт поставок, низкие цены – этот трубопровод выгоден Евросоюзу»*. Но только при условии, добавила Кирстен Вестфаль, что будет сохранен и транзитный коридор через Украину, поскольку *«это обеспечит диверсификацию маршрутов доставки газа»*.

В свою очередь **Сюзан Стюарт**, эксперт SWP по российской и украинской политике, прямо заявила DW: *«Я против «Северного потока-2»*.

### «Чрезмерная реакция» и «эскалация в отношениях»

Но в то же время Сюзан Стюарт не поддерживает требование остановить «Северный поток-2» из-за событий в Керченском проливе: *«Это было бы чрезмерной реакцией»*. Сейчас первым делом следовало бы, по мнению эксперта, *«наладить диалог между Россией и Украиной при международном посредничестве, будь то нормандский формат или какой-то другой»*.

По ее словам, *«необходимо обсудить как сам инцидент, так и, к примеру, дальнейшую судьбу задержанных Россией украинских военных моряков. А также, естественно, будущее судоходства в Азовском море»*. Если же Россия будет противиться такому диалогу, то, подчеркнула Сюзан Стюарт, она *«приветствовала бы дополнительные санкции против нее, но в данном контексте не в виде отказа от «Северного потока-2»*.

Кирстен Вестфаль, со своей стороны, предостерегает от принятия в вопросе «Северного потока-2» быстрых, необдуманных решений и призывает тщательно взвешивать все плюсы и минусы возможного отказа от проекта. Так, остановка строительства, отметила она, вовсе не гарантирует, что *«Россия сразу же сядет с Украиной за стол переговоров и без проблем договорится с ней о продолжении транзита больших объемов газа через украинскую территорию»*.

*«Мне пока никто не доказал, что остановка строительства «Северного потока-2» автоматически приведет к изменению политики и поведения России»*, – подчеркнула эксперт. В то же время отказ Евросоюза от завершения этого проекта означал бы *«очень серьезную эскалацию в отношениях с Россией и нанес бы огромный ущерб германо-российским отношениям»*, считает Кирстен Вестфаль.

У СОСЕДЕЙ

## Средняя пенсия в Литве – 337 евро

*Это 46,66% средней зарплаты «на руки» по стране.*

Но, оказывается, по официальным данным литовского Фонда соцзащиты Содра, в августе 2018 года 52.000 жителей Литвы получали пенсию меньше 200 евро. Немало людей в Литве получает и пенсию в размере 200–300 евро – 230 тысяч. Пенсия в размере 300–400 евро назначена 190.000 пенсионеров. Почти 60.000 получают пенсию в размере 400–500 евро. 14.000 пенсионеров получают пенсию в размере 500–600 евро, 5000 человек получают пенсию 600–700 евро. У 2,5 тысячи литовских пенсионеров пенсия составляет 700–800 евро.

ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

# 55-летний Тарантино впервые женился



Режиссер Квентин Тарантино 28 ноября тайно женился в Лос-Анджелесе на израильской поп-певице и модели Даниэле Пик. Возможно, этот факт так и остался бы тайной, если бы фотографии со свадебной церемонии не опубликовала автор платья для невесты дизайнер Дана Харель.

Тарантино познакомился с будущей супругой в Израиле во время промотура «Бесславных ублюдков» в 2009 году.

В прошлом году он сделал возлюбленной предложение. Для 55-летнего режиссера брак с 35-летней певицей стал первым.

У НИХ

## Президентом Грузии стала бывший посол Франции в Грузии



Саломе Зурабишвили – независимый кандидат, которого поддерживает правящая партия «Грузинская мечта». По данным ЦИК Грузии, во втором туре выборов Зурабишвили набрала почти 60 процентов голосов избирателей. За Григола Вашадзе – кандидата от оппозиционной партии «Единое национальное движение» (ЕНД) Михаила Саакашвили – проголосовали чуть более 40 процентов, сообщил ЦИК.

Саломе Зурабишвили родилась в Париже. Она работала в МИД Франции. В 2003 году стала послом Франции в Грузии, а через год – главой грузинского МИД. В 2010 году Зурабишвили возглавила комиссию Совета Безопасности ООН по вопросу санкций против Ирана. Спустя шесть лет была избрана в парламент Грузии.

Стоит отметить, что экс-президент Грузии Михаил Саакашвили не признает результаты выборов. В интервью «Рустави 2» он заявил о непризнании итогов выборов, поскольку «они проходили в условиях насилия». Он призвал жителей Грузии к массовым акциям протеста.

КРАЖА ГОДА

# Из аукционного дома украли картину Ренуара




**В Австрии объявили в розыск трех человек, подозреваемых в краже картины французского импрессиониста Пьера Огюста Ренуара**.

Пейзаж «Залив, море, зеленые скалы» был украден 26 ноября из помещения аукционного дома Dorotheum в Вене. Как установлено с помощью записей с камер, мужчина вместе с двумя сообщниками зашли на второй этаж, где было выставлено полотно, затем вытащили его из рамы. Отмечается, что, очевидно, профессиональное трио разделилось и покинуло здание разными путями. При этом у двоих мужчин были с собой большие сумки для покупок.

Аукционный дом подтвердил кражу. Картину планировали выставить на торги 28 ноября. Ожидалось, что ее получится продать за сумму от 120 тысяч до 160 тысяч евро (135–180 тысяч долларов). «Залив, море, зеленые скалы» ранее продавали на аукционе Sotheby's в 1996 году за 56.538 долларов.

Bloomberg отмечает, что торговля предметами искусства становится все более прибыльным делом для организованных преступных группировок. По информации Интерпола, продажа картин на черном рынке так же выгодна, как торговля наркотикамив и оружием. В базе данных агентства на начало марта насчитывалось 50 тысяч украденных полотен.

НА СВЯЗИ – КИЕВ

# Войны не будет…

На этой неделе в Украине введено военное положение. Насколько была необходима эта мера? Кое-кто называет это решение СНБО и президента Украины Петра Порошенко странным. Потому что на сегодняшний день какой-то явной непосредственной угрозы, способной резко ухудшить обстановку на фронтах необъявленной войны с Россией, фактически не существует. Руководство Украины не объявило военное положение даже тогда, когда в феврале 2014 года Российская Федерация тихой сапой оккупировала, а потом аннексировала Крым. Были и другие довольно существенные поводы его ввести:

в апреле 2014 года, когда в Донецкой и Луганской областях начались захваты городов ДРГ противника;

в июне 2014 года, когда открыто с территории России реактивной артиллерией уничтожались размещенные около границы полевые лагеря ВСУ;

в июле 2014 года, когда российские Вооруженные силы с оккупированной территории начали сбивать гражданские самолеты;

в августе 2014 года, когда регулярная российская армия перешла границу, блокировала и разбила украинскую армию под Иловайском;

в феврале 2015 года, когда в нарушение всех договоренностей по перемирию начался штурм Дебальцево российскими войсками.

Так что же в ноябре 2018 года стало тем Рубиконом, после которого «военный кабинет» Украины решился на столь радикальные действия в момент относительного затишья на фронтах?

Кратко. Украина решила перебазировать несколько военных кораблей из Одессы в Мариуполь. Договор от 2003 года об использовании Азовского моря никто не отменял. Украина соблюла все формальности международного права. Более того, несколько недель назад проход через Керченский пролив без всяких проблем совершили суда ВМС Украины. Правда, это были вспомогательные суда, а не боевые корабли. До инцидента все боевые корабли доставляли в порты Азовского моря по железной дороге.

В минувшее воскресенье возникли проблемы: в международных территориальных водах на украинские суда напали и с применением огня на поражение захватили. Россия считает, что после оккупации Крыма эта часть Черного моря стала ее внутренней территорией.

Во всей этой драматической истории много несуразных фактов. А именно: на столь агрессивные действия соседнего государства практически никак не отреагировал украинский МИД, кроме осуждающего заявления на своем сайте, которое можно трактовать как документ для внутреннего пользования. Реальные общепринятые дипломатические шаги по отношению к России так и не были предприняты.

Не был вызван для объяснений руководитель российской дипмиссии в Украине. Не было ноты протеста по факту атаки и захвата украинских кораблей в международных территориальных водах. Не был отозван для срочных консультаций Временный Поверенный Украины в Москве. Вопрос в повестке дня о прекращении дипломатических отношений с Россией даже не стоит. Пограничные переходы не заблокированы. Торговля с ней при, казалось бы, набирающем обороты кризисе по-прежнему продолжается.

При всем этом в ночь с воскресенья на понедельник СНБО предлагает ввести внутри страны военное положение на два месяца. Какой-то нонсенс.

Народ Украины был в шоке: ночь была неспокойная, к утру начала нарастать легкая паника, курс доллара резко пошел вверх, население готово было скупать продукты в магазинах... И тут выходит Петр Порошенко и всех успокаивает: **войны не будет, а мобилизация не предусмотрена**! Далее Петр Алексеевич вальяжно следует в парламент за утверждением своего указа о военном положении. Но в Верховной Раде его неожиданно ждет конфуз. Аргументы Петра Алексеевича не воспринимаются, и резко надувшемуся в информационном плане президенту приходится включить задний ход. Фактически его сломали. Он вынужден ретироваться и переписать свой указ. Согласно новому указу, военное положение будет не 60 дней, а всего 30. Не по всей стране, а лишь в некоторых областях, граничащих с Россией и контролируемым ею Приднестровьем. Без ограничения свобод граждан. И главное – без переноса даты президентских выборов. Верховная Рада удовлетворена, такое решение президента утверждает и тут же внепланово назначает дату президентских выборов на 31 марта. Занавес!

Некоторые аналитики считают всю эту затею с военным положением личным фиаско Петра Порошенко. Дальше цена его избирательной кампании будет только возрастать. На таком фоне о росте рейтингов сложно говорить. Тем более что президент, как многим показалось, выглядит слабым и растерявшимся политиком. Что уж точно очков ему не прибавит, наоборот, усилит отток от него местных феодальных царьков и затруднит торги с партнерами. Оппоненты, почуяв запах крови раненого льва, еще больше усилят давление.

В ближайшие месяцы Украина будет сдавать очередной экзамен. Сдаст ли?

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,
собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

## ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК

### Не працуе смартфон

*Так сталася, што па маёй віне зламаўся смартфон, які яшчэ на гарантыі. Што зараз рабіць?*

**Валянціна ГІЦЭВІЧ, Гродна.**

– Яго могуць адрамантаваць у любым спецыялізаваным сэрвісным цэнтры. Звяртайцеся туды.

### Замяніць тэлефон

*Зламаўся тэлефон, які пакуль знаходзіцца на гарантыі. На працягу якога часу яго павінны адрамантаваць?*

**Сямён ГУЛЕВІЧ, г.Жодзіна.**

– Адрамантаваць апарат абавязаны на працягу 14 дзён.

### Няякасны пыласос

*Пасля двухмесячнага рамонту ў сэрвісным цэнтры мой пыласос ізноў пачаў дрэнна працаваць. Затым наогул зламаўся. Што ў гэтай сітуацыі можна зрабіць?*

**Віктар ПАРЧЫНСКІ, Віцебск.**

– Заявіце прэтэнзію на няякасны рамонт. Патрабуйце, каб аднавілі працаздольнасць пыласоса.

### Вярнуць грошы за тавар

*Зламаўся дарагі ноўтбук. У сэрвісным цэнтры адрамантаваць яго не змаглі, але далі заключэнне. Ці можна ў магазіне запатрабаваць грошы за тавар?*

**Андрэй ЖУК, Мінск.**

– Можна. Прад'явіце ў магазіне экспертнае заключэнне, якое вам выдалі ў сэрвісным цэнтры.

### Запатрабаваць грошы за тэлевізар

*Набылі тэлевізар, ён стаў дрэнна паказваць. У магазіне прапанавалі гарантыйны рамонт. Ці можам пры звароце ў магазін адмовіцца ад рамонту і патрабаваць грошы за тэлевізар?*

**Аляксей ПІНЧУК, г.Маладзечна.**

– Права выбару па рамонце належыць спажыўцу. Можаце напісаць у магазін заяву аб адмове ад рамонту і запатрабаваць скасавання дамовы аб куплі-продажы. Грошы павінны вярнуць.

### Экспертыза тавару: хто прысутнічае?

*Ці можна мне прысутнічаць на экспертызе тавару?*

**Віталь СПІРЫДОВІЧ, г.Ваўкавыск.**

– Пры правядзенні экспертызы запрашаюцца ўсе ўдзельнікі канфлікту. Акт тэхнічнай экспертызы аплачвае спажывец.

ВРЕМЯ И ПАМЯТЬ

# Почему дом Михаила Савицкого не станет его музеем

Продан знаменитый особняк на Беломорской, 17 – дом народного художника Михаила Андреевича Савицкого, академика, героя Беларуси и почетного гражданина Минска. Он был выставлен на продажу год назад, первоначальная цена сделки объявлялась в 400 тысяч долларов.



Михаил Андреевич жил здесь последние двадцать лет до самой своей кончины в 2010 году. А построен этот элитный дом-коттедж в конце 1980-х по индивидуальному проекту главного (на тот момент) архитектора Минска Ярослава Линевича. Ну а кто еще должен был выполнять заказ главного художника страны? Только главный архитектор.

К сожалению, прямые наследники Савицкого ушли буквально следом за художником: жена Рита, сын Андрей. Родственники по линии жены, которым отошла собственность в 2015 году, выставили дом на продажу в конце 2017 года. И не так давно он был продан. Окончательная сумма сделки не разглашается. Сейчас в доме идут колоссальные ремонтные работы.

Собственно, я поэтому и обратила внимание на знаменитый особняк: из заброшенного строения, от которого в последнее десятилетие за версту тянуло разорением и невзгодами, на улицу вдруг выглянул добротный, прямо-таки молодецкий дом из красного кирпича. Калитка была открыта, я вошла. На участке не обнаружила ни одного дерева – а был он в последнее время заросшим «до бровей». Сейчас же мне открылась хорошо разутюженная… стройплощадка.

Конечно, я была готова, что хозяин каждую минуту может шугануть меня со своей частной собственности, но все-таки прошла дальше и поднялась на крыльцо. Дверь была настежь, изнутри тянуло горьким дымом – кто-то явно пытался разжечь камин и, кажется, безуспешно, потому что воняло страшно. Я вошла и как можно более бодрым голосом – чтобы расположить к себе, незваной гостье, – произнесла в пространство: «Здравствуйте! Ау!» Из пустого дверного проема вышел приятный человек и спокойно посетовал, что камин совершенно не тянет, видимо, вытяжка забита мусором, а холодные стены хорошо бы протопить.

Это был строитель, возможно, даже ответственный (судя по степенности и рассудительности) за грандиозный ремонт, начатый хозяином, который в данный момент, как выяснилось, находится за границей. На мой вопрос про исчезнувшие деревья, он рассказал, что с садом на восьми сотках пришлось расстаться, потому что надо изрыть практически весь участок – поменять все коммуникации.

В доме, заметила, все тоже вычищено до голой штукатурки, кстати, открывшей талантливую планировку строения: каминный зал, широкий марш деревянной лестницы из прихожей на второй этаж, большая кухня-столовая (между прочим, с электрической плитой – как стратегически мыслил бывший хозяин, а?).

Какая счастливая жизнь планировалась в этих стенах!.. Все было рассчитано для труда и вдохновенья. Но единственный наследник большого художника не вытянул отцовский замысел по созданию родового гнезда. Сын самым пошлым образом спился, и дом – шикарный, дорогой, с помещением для библиотеки, художественной мастерской, встроенным гаражом, огромной террасой, со всеми современными коммуникациями, в центре столицы в конце концов, совсем не старый по своим годам – еще при жизни Михаила Андреевича и его супруги стал мистическим образом ветшать и разлагаться. Его внешний вид катастрофически быстро пришел в упадок, будто стены ежегодно впитывали часть невзгод своих хозяев. А переживания отца за своего неудавшегося сына были очень горькими – это не было секретом для товарищей и коллег по цеху Михаила Андреевича. Но вот родители ушли, их сын быстро сгорел от алкоголя, и дом – 354,5 метра площади – словно вздохнул, отряхнулся, готовый теперь к своей новой судьбе.

Михаил Андреевич Савицкий был третьим членом Белорусского союза художников, которому после войны советская власть выделила участок в десять соток в Минске под частное домовладение. Первым был народный художник Андрей Бембель, скульптор, его дом-мастерская был построен на его собственные средства в 1960 году. Через много лет, в 1984-м, возможность построиться дали скульптору Заиру Азгуру, тоже народному, тоже герою, еще и лауреату Сталинской премии. И в 1989-м «непозволительной роскошью» был одарен Михаил Савицкий. И скажу, что все трое – по творческим заслугам.

Что ж, хозяева домов давно поменяли миры, как говорят об умерших японцы. А что их дома? Первые два особняка живут теперь активной общественной жизнью. Дом Азгура – мемориальный музей скульптора (муниципального подчинения). В доме Бембеля расположился Белорусский союз художников. Особняк – собственность этого общественного объединения, благодаря чему художников не смогли прогнать взашей на улицу (как прогнали писателей – из особняка на улице Фрунзе, и композиторов – из дома на площади Свободы, 5, где они при советской власти по-барски занимали первый этаж). Раздавались голоса, что и дом на Беломорской должен стать музеем. Но творчеству Михаила Андреевича Савицкого отдана огромная усадьба XVIII века на территории Верхнего города. Она гораздо лучше, выгоднее, чем дом на Беломорской, потому что стоит в историческом центре, на пересечении туристических троп. И главное, добавлю, место для своей именной галереи было выбрано самим художником. Так что пенять на власти в данной ситуации нечего.

Но мемориальная доска на здании коттеджа по улице Беломорской, 17 останется нетронутой и при новом хозяине. Думаю, это лишь повышает ценность строения. На доске – эмблема с серпом и молотом на мольберте. Художник Савицкий был человеком трудящимся, верным идеям социализма, хоть и редким на тот момент в советской столице богатым домовладельцем.

**Елена МОЛОЧКО.**

**На фото: один из трех особняков, которыми советская власть в каком-то смысле наградила – разрешила иметь частную собственность – своих лучших художников.**

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

# «У мяне свае погляды на жыццё»

*Дызайнер адзення ў этна-стылі **Анастасія Фальковіч** адказала тым, хто называе яе апазіцыянеркай альбо, наадварот, крытыкуе за тое, што ў створаных ёю нацыянальных строях выступаюць на разнастайных дзяржаўных мерапрыемствах медыйныя персоны і зоркі беларускай эстрады.*

*«Часта чую, што Фальковіч – апазіцыйны дызайнер. На гэта скажу так: я даўно страціла веру ва ўсіх, акрамя Бога і сваіх магчымасцяў,* – напісала Анастасія на сваёй старонцы ў Instagram. – *Перш за ўсё я творчы чалавек, я грамадзянін сваёй Радзімы, які імкнецца стварыць цудоўнае і зрабіць свет вакол сябе ярчэйшым і больш добрым. Я бачу, як людзі спрабуюць выдзеліцца, абысці адзін аднаго, дробна напаскудзіць. Я вышэй плётак, ні з кім не канфліктую, я сябрую і падтрымліваю розныя бакі, не займаючы чыю-небудзь пазіцыю, я сябрую са сваімі калегамі па цэху і захапляюся імі. У мяне свае погляды на жыццё. Яно занадта кароткае, каб марнаваць каштоўны час на трызненне ў выглядзе зайздрасці, плётак, барацьбы за кавалак больш салодкі і тлусты! ... Я проста працую. Звычайны кравец, які робіць сваю працу добра».*



Узгадала Анастасія і сваю бабулю, ад якой, лічыць яна, ёй перадалася любоў да ўсяго беларускага: *«Мая бабуля распавядала мне гісторыі, як яны жылі да вайны, як босымі выганялі кароў у поле і ад холаду грэлі ногі ў цёплых каровіных блінах. Лапці былі адны на ўсю сям'ю, таму што дзеці хутка раслі… А на свята Вялікдзень яны хадзілі пешшу з-пад Ракава ў Вільню. Было ў іх 10 гектараў зямлі, і працавалі ўсёй сям'ёй, а зімой спявалі песні і пралі кудзелі. Цікава і ўтульна было паслухаць бабуліны гісторыі, седзячы ля печы на яе каленях. А яшчэ яна вучыла нас польскай і беларускай мовам, чытала нам вершы. Успамінаю, і ажно сляза наварочваецца…»*

Трэба адзначыць, што Анастасія Фальковіч ад пачатку сваёй творчай дзейнасці прытрымлівалася этна-стылю, сёння кожны чацвёрты заказ у яе – выраб у нацыянальным стылі. Кліенты Анастасіі – вядомыя артысты, палітыкі, дыпламаты і звычайныя беларусы. Яе касцюмы ёсць у Вікторыі Алешка, Жанет, Зоі Белахвосцік, Аляксандра і Валянціны Гарцуевых, яна распрацоўвала вобразы для групы «Спадчына», Pawa. Шмат хто з тэлевядучых заказвае адзенне ў Фальковіч, яна неаднойчы шыла сукенкі для паказаў беларускіх прыгажунь, якія прадстаўляюць нашу краіну на міжнародных конкурсах прыгажосці. Апранае дызайнер і дзяржаўныя дэлегацыі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРЫЗНАННЕ

# Будслаўскі фэст уключаны ў спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва

*Міжурадавы Камітэт па захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА, 13-я сесія якога праходзіць да 1 снежня на Маўрыкіі, сярод дзевяці новых элементаў уключыў Будслаўскі фэст у Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.*

Будслаўскі фэст праходзіць у аднайменным мястэчку ў Мінскай вобласці. Пачынаючы з XVII ст. штогод у першыя выхадныя ліпеня сотні тысяч пілігрымаў з усёй Беларусі і з іншых краін прыбываюць у Будслаў, каб удзельнічаць ва ўрачыстасцях у гонар іконы Маці Божай Будслаўскай. Многія з іх ідуць пешкі. Урачыстасць, якая адбываецца ў атмасферы ўсеагульнай павагі і дружбы, аб'ядноўвае розныя групы людзей, незалежна ад іх рэлігійных поглядаў, сацыяльнага статусу і гендарных адрозненняў.



